 




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ
№ 27 (540) Год XI 3 ЛІПЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.

## АДКРЫВАЕМ БЕЛАСТОЧЧЫНУ

*Пачынаем цыкл рэпартажаў пра родную зямлю. Хочам яе наблізіць да чытачоў, паказаць яе з малавядомага боку, у пэўным сэнсе «адкрыць» яе, што ў перыяд святкавання Тысячагоддзя, калі тэма роднай зямлі гучыць на кожным кроку, не так лёгка здзейсніць.*
*Таму ацэнку нашай разведкі Тысячагоддзя пакідаем Вам, Чытачы.*

# АД СУПРАСЛІ ДА ЖЗДНІ

Калі глядзім на нашу зямлю — ці то едучы аўтобусам, ці то едучы поездам — рэдка падумаем аб тым, колькі гістарычна важных падзей вяжацца з ёю. Кожная язда настройвае чалавека да спешнасці, нервовасці, дзелавітасці. Зусім іначай кладуцца чалавечыя думкі, калі ідзеш пехатою — паволі і доўга, цэлы дзень.

I так, аднаго святочнага ранку паў-«Нівы» выбралася пехатою. Сваё пешаходства пачалі мы ад Супраслі, дакладней кажучы, ад сцен былога супраскага манастыра, што ўзвышаецца ля крынкаўскага гасцінца па-над рэчкаю. Глядзіш на гэтыя сцены, на даўнія руіны, і аж не верыцца, што тут знаходзіўся праслаўлены цэнтр культуры ўсходняй Славяншчыны. Недзе тут, у знішчэлых цяпер закавулках сустракаліся слаўныя асветнікі і палітыкі даўняй Русі. Ні адна энцыклапедыя на свеце не можа не ўспомніць хоць у пару словах пра Супраслю і яе колішні манастыр. Бо яго роля ў гісторыі Русі была велізарная! Цяпер тут школа механізацыі сельскай гаспадаркі і ўсюды поўна галаслівай моладзі. Магчыма, гэта гістарычны і лагічны лёс манастыра, які з асветна-палітычнага цэнтра пераўтварыўся ў цэнтр найноўшага механізаванага прагрэсу.

Наша далейшая вандроўка ад Супраслі ўглыб пушчы пачалася даволі няўдачна, хаця і намерыліся мы ісці толькі пазначаным турыстычным маршрутам ад Супраслі да Жэдні. Другога маршруту ў гэтай прыбеластоцкай аколіцы няма. Ён, гэты маршрут, вельмі выразна намаляваны на геаграфічнай карце ў беластоцкім турыстычным інфарматары рэд. Р. Краські. Мы ледзь знайшлі на ялінавых дрэвах пару чырвоных знакаў гэтага маршруту. Гэтых знакаў амаль не відаць, зблеклыя яны, даўно не аднаўляныя. Далей ішлі наўдагад. Маецца ўражанне, што гэты прыгожы кут нашай зямлі забыты людзьмі і беластачанамі... Пустынная дарога.

Добрую гадзіну ішлі мы праз стройны ялінава-сасновы лес, якога не напаткаеш нават у славутай Белавежскай пушчы. Перад намі паказалася вёска Цілічанка, а спачатку леснічоўка за мостам над рачулкаю — надрэчныя лугі аж па небакрай. Назву гэтай вёскі паперакручвалі бюровыя пісакі на ўсякія спосабы: Целічанка, Чылічанка, Чэлічанка... Недзе ў абед выбраліся на пясчаную дарогу, якая завяла нас у лясную вёску Калоднае. З пясчанай і занядбанай дарогі трапілі мы ў вельмі зграбную, чыстую вёску. Калоднае такое брукаванае, вуліца з тратуарамі, чыстыя (брукаваныя) панадворкі, старанліва ўтрыманыя хаты і працавітыя людзі. Пакрай вуліцы будуць калодненскія людзі будаваць рамізу са святліцаю, чынам закладалі фундамент пад яе.

(Працяг на стар. 5)



Будынкі былога манастыра. На першым плане рэшткі сцен царквы з XVI ст. (пасля рэканструкцыі).



— Да паўстанцкай гары? Проста і налева. З кіламетр будзе, — інфармуе нас жыхар Калодна, Аляксандр Даражкевіч.

Вёска Калодна.



## НЕ ТОЛЬКІ „КАГАНКА“

У Кузаве быў я на адной сустрэчы, якія мы праводзілі ў Днях асветы, кніжкі і друку. Размова пачалася толькі з некалькімі жыхарамі вёскі, таму што апошнія былі яшчэ ў полі.

Народ тут, як і ўсюды, мае свае дасягненні і клопаты. Бо ці ж гэта не дасягненне, што жыхары пабудавалі грамадскім чынам святліцу (зараз клуб «Рух»), дарогу і іншыя? Але наша размова затрымалася на клопатах.

— Бо ведаеце, — сказаў мне адзін кузавец, — дасягненні — то здаецца, што гэта так і трэба, а недахопы — дык вельмі балючыя.

I сапраўды, калі сабралася поўная святліца людзей і мы пачалі «дыялог» — спраў аказалася многа. Нягледзячы на тое, што ў Кузаве амаль з кожнай хаты хто-небудзь працуе на чыгунцы ў Чаромусе, дамінавалі справы сельскагаспадарчага характару. У вёсцы ёсць 100 гектараў дзяржаўнай зямлі, з якой дзяржава не мае ніякай карысці, таму што ёю афіцыйна ніхто не карыстаецца. У практыцы яно выглядае крыху інакш, таму што зямля тут у палосках. і часта суседзі сабе прыворваюць па скібе. Некаторыя на гэтых палосках пасвяць жывёлу, і ў сувязі з тым робяць шкоду на пасевах суседніх палосак. З гэтым звязана і справа механізацыі. Ёсць тут сельгасгурток, але толькі на паперы, таму што няма машын, а. па-другое, то няма як гэтымі машынамі гаспадарыць на палосках. Вось і клопат вялікі.

**УРОЧЫШЧА «КАГАНКА»...**

...мае нават сваю гісторыю. Гэта каля 70 гектараў лугоў, якія маглі б даваць многа сена кузаўцам. Дагэтуль не змеліяравана, хаця нават вакол праходзяць меліярацыйныя равы. Людзі «падносілі» гэту справу не раз, але дагэтуль жыхары, так і солтыс не ведаюць, які лёс чакае «Каганку».

**I БАСЕЙН...**

...такі для пажарнай каманды.
— Восенню мінулага года загарэўся стог сена ў нашай вёсцы, і не было чым гасіць, калі прыехала пажарная каманда. Недахоп вады, — гаворыць адзін з размоўцаў.

Солтыс Пятро Саўчук таксама не надта ведае, чаму не будуюць у вёсцы басейна. А людзі, якія былі на сходзе, згодна заявілі, што маглі б многа чынам зрабіць, толькі трэба было б крыху ім памагчы ў пакупцы матэрыялаў.

**У ПАВЯТОВАЙ РАДЗЕ**

Не вельмі шчасліва склалася, таму што ў час майго візіту не ўсе «начальнікі» былі на месцы. Дагэтуль нельга сарыентавацца, як выглядае справа «камасацыі». Здаецца, справа тут на толькі складаная, што на старонках «Нівы» цяжка выясніць. Мала разумеюць жыхары Кузава і з пісем, якія шлюць ім (у гэтай справе) павятовыя ўлады.

У справе меліярацыі «Каганкі» аўтарытатыўны адказ атрымалі мы ад Аляксандра Ігнатовіча, кіраўніка Інспектара-

(Працяг на стар. 4)

 

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ДЭ ГОЛЬ У СССР

З найбольшай сардэчнасцю і пашанаю быў прыняты ў Савецкім Саюзе прэзідэнт французскай рэспублікі Шарль дэ Голь, якога суправаджалі міністр замежных спраў Марыс Кув дэ Мюрвіль і іншыя афіцыяльныя асобы.

Прэзідэнт пасля першай туры перагавораў у Маскве наведаў Новасібірск. Адсюль, толькі ў суправаджэнні міністра Кув дэ Мюрвіль, асабістага лекара і ад'ютанта, генерал дэ Голь пераехаў на касмадром Байканур, дзе супольна з Л. Брэжневым і А. Касыгіным назіраў запуск новага спадарожніка зямлі. Трэба адзначыць, што гэта першы візіт замежнага кіраўніка дзяржавы на савецкім касмадроме. У сувязі з гэтым многія назіральнікі сцвярджаюць, што апрача тэхнічнага супрацоўніцтва будзе падпісаны дагавор паміж СССР і Францыяй у галіне касманаўтыкі. У мінулую нядзелю Шарль дэ Голь наведаў Ленінград, дзе прысутнічаў на імшы ў адным з каталіцкіх касцёлаў Ленінграда, а затым злажыў вянок на могілках безыменных герояў абаронцаў Ленінграда. Вянок нёс, між іншым, сын прэзідэнта.

### ПРА ВІЗІТ — У ЗША

Наогул у Вашынгтоне назіраецца злосць у адносінах да асобы, а мо' лепш да спраў, якія закранае прэзідэнт дэ Голь. Менавіта разыходзіцца тут пра тое, што дэ Голь падымае тыя крокі (у адносінах да СССР), якія Злучаныя Штаты даўно павінны былі зрабіць. Сярод амерыканцаў ствараецца апінія, што ўсяму кепскаму вінаваты дэ Голь. Вінаваты ён у тым, што в'етнамская вайна сталася не папулярнай, што паўстаў крызіс у НАТО, і ўрэшце дэ Голя абвінавачваюць у тым, што пагоршыліся суадносіны паміж ЗША і Францыяй. Калі разыходзіцца пра суадносіны, то існуе ў ЗША схільнасць да ўвасаблення дэ Голя. «Дэгалізм» атаясамліваецца з антыамерыканізмам. А ўсё гэта вынікае з ацэнкі паводле амерыканскага шаблону — дрэннага шаблону.

### ...І ФРАНЦЫІ

Французы ганарацца з гэтага візіту дэ Голя. Назіральнікі, якія знаходзяцца ў Францыі, сцвярджаюць, што не толькі старонкі газет вельмі шырока распісваліся аб паездцы, але адчувалася вялікае задавальненне чытачоў, калі аб ім чыталі. У Францыі наогул назіраецца перамяшчэнне палітычных сіл на падтрымліванне загранічнай палітыкі дэ Голя. Грамадская апінія падтрымоўвае ролю Францыі ў Еўропе і свеце. Сцвярджаецца тут адназначна, што дэ Голь — гэта адзіны кіраўнік дзяржавы, які не прадстаўляе сабой пасла амерыканскай палітыкі. Адзінай групай, якая не раздзяляе загранічнага курсу палітыкі дэ Голя, гэта крайнія правыя.

### РУБЫ ЗДАРОВЫ

У Злучаных Штатах зноў аджылі ў размовах трагічныя выпадкі ў Далес. Адбылося тут пасяджэнне суда, які прызнаў, што забойца Освальда, Жак Рубы ёсць і быў пры поўнай памяці. Гэта зусім не абазначае, што ў хуткім часе будзе выкананы на ім смяротны прыгавор. Гэтая справа, пры прымяненні розных працэдуральных кручкоў, можа працягвацца гадамі. **(АК)**

## БССР

### СЕСІЯ

Адбылася восьмая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР шостага склікання, прысвечаная будаўніцтву і ўтрыманню дарог на Беларусі. З дакладам выступіў І. Грыгаровіч, начальнік Галоўнага ўпраўлення шасэйных дарог пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

### ВЫБАР

Беларускія газеты запоўненыя аб'явамі розных школ і інстытутаў. Пасля некаторага застою ў мінулыя гады, беларуская эканоміка зноў перажывае бурлівае развіццё і патрабуе масу адукаваных спецыялістаў. Некаторыя школы падвоілі, нават патроілі наборы вучняў. Беларускія дзяўчаты і хлопцы маюць шырокі выбар сваёй жыццёвай дарогі.

### 72

Газета «Советская Белоруссия» апублікавала інтэрв'ю з І. Інсаравым, міністрам аховы здароўя Беларускай ССР.

Інсараў м. ін. сцвердзіў:

«Агульная смяротнасць насельніцтва ў нашай рэспубліцы значна ніжэйшая, чым у высокаразвітых капіталістычных краінах. Сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі павялічылася да 72 год».

Міністр расказвае аб вялікім развіцці службы аховы здароўя на Беларусі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў ганаровае званне заслужанага лекара Беларускай ССР вялікай групе медыкаў.

### СЕМІНАР

У Брэсце адбыўся семінар сакратароў партыйных камітэтаў, дзе заслухана, між іншымі, даклады на тэмы: «Аб некаторых праблемах развіцця савецкай літаратуры і мастацтва», «Аб некаторых праблемах развіцця кіно». Семінар у асноўным быў прысвечаны пытанням партыйнага будаўніцтва і развіцця сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці.

### УШАНАВАННЕ

Прадстаўнікі пасольства Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ўсклалі вянок на Цэнтральным востраве Брэсцкай крэпасці. Прадстаўнікі пабывалі на месцах гістарычных баёў у крэпасці, агледзелі музей абароны цытадэлі.

### ПІСЬМО

Прадстаўніцтва Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый накіравала генеральнаму сакратару ААН У Тану пісьмо, у якім паведамляецца, што Беларусь выступае за неадкладнае ажыццяўленне Дэкларацыі аб прадстаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам, аказвае і будзе аказваць усебаковую падтрымку антыімперыялістычнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбе народаў. (С. Я.)

### ЧЭМПІЁН

Беларускі спартсмен Аляксандр Мядзьведзь стаў чэмпіёнам свету па вольнай барацьбе 1966 года. Гэтае званне А. Мядзьведзь страціў у мінулым годзе.

## ПОЛЬШЧА

### ГОСЦІ З ЮГАСЛАВІІ

23 чэрвеня на запрашэнне Маршалка Сейма — Чэслава Выцэха прыбыла ў Польшчу дэлегацыя югаслаўскіх парламентарыстаў з сакратаром Саюзнай скупшчыны Эдуардам Кардэлем на чале. Дэлегацыя прабыла ў Польшчы 8 дзён, наведала, апрача Варшавы, Кракаў, Асвенцім, Катавіцы, Пулавы, сустрэлася з важнейшымі асабістасцямі нашага палітычнага і грамадскага жыцця.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ БУДАЎНІКОЎ

Звыш 700 вядомых вучоных, канструктараў і інжынераў будаўніцтва з 14 краін абмяркоўвалі ў Варшаве ў днях 22—26 чэрвеня праблемы металічных канструкцый у будаўніцтве.

### ПОЗНАНСКІ КІРМАШ

У нядзелю 26 чэрвеня закрыўся Міжнародны Познанскі кірмаш. Толькі да 22 чэрвеня кірмаш наведала звыш 300 000 асоб, у тым ліку каля 7 000 чужаземцаў. Заключана ў гэтым часе мноства карысных для краіны міжнародных гандлёвых дагавораў.

### ПАСЯДЖЭННЕ ЭКАНАМІЧНАГА КАМІТЭТА РАДЫ МІНІСТРАЎ

21 чэрвеня адбылося пасяджэнне Эканамічнага камітэта Рады Міністраў. На пасяджэнні прынята, між інішым, пастановы ў справе далейшага развіцця прадукцыі серы і некаторых хімікатаў, а таксама ў справе пабольшання сродкаў на памяшкальнае будаўніцтва некаторых рад нарадовых.

### КАНЕЦ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

24 чэрвеня адбылося заканчэнне навучальнага года. Школу пакінула ў гэтым годзе 8 мільёнаў 270 тысяч дзяцей і моладзі, у тым ліку звыш 5 мільёнаў 176 тысяч дзяцей вучылася ў пачатковых школах.

Сёмыя класы закончыла каля 650 тысяч дзяцей. З гэтай колькасці — 403 тысячы будзе вучыцца ў восьмых класах, а каля 253 тысячы — у першых класах прафесіянальных школ.

### ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ Ў ЛЮБЛІНЕ

21 чэрвеня вечарам у Любліне і Свідніку былі заўважаны невялікія падземныя сутрасенні. У памяшканнях у гэты час хісталіся падстольныя лямпы і дрыжэла хатняя пасуда. З'яву даследваюць вучоныя аддзялення сейсмалогіі Інстытута геафізікі Польскай Акадэміі навук.

### ДНІ МОРА

25 чэрвеня адбылася цэнтральная ўрачыстасць святкаванняў Дні мора ў найстарэйшым польскім ваенным порце — Пуцку. Ва ўрачыстасці прыняў, між іншым, удзел член Палітычнага бюро ЦК ПАРП — Зэнан Клішка.

### З'ЕЗД АРГАНІЗАЦЫІ ЖАНЧЫН

У нядзелю 26 чэрвеня пачаўся ў Варшаве IV з'езд Лігі жанчын. У абрадах з'езда прыняла ўдзел каля 800 дэлегатак з усяе краіны. Падсумавалі яны дасягненні сваёй арганізацыі за апошнія 4 гады і вызначылі далейшыя напрамкі дзейнасці сваёй арганізацыі, звязаныя перад усім з працай у месцах пражывання жанчын. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### За жыццё і здароўе дзяцей
### ЗАКЛІК

З аказіі заканчэння навучальнага года і пачатку канікулаў Ваяводская камэнда міліцыі, Кураторыя школьнай акругі і Камэнда Харугвіі ЗГП аб'явілі заклік да бацькоў і выхаваўцаў.

У закліку, між іншым, чытаем:

«Летні перыяд, перыяд канікулаў і адпачынку — асабліва небяспечны з увагі на дарожныя выпадкі, ахвярамі якіх з'яўляюцца часта дзеці і школьная моладзь. Асноўнай прычынай гэтых трагічных здарэнняў з'яўляецца адсутнасць дагляду над дзяцьмі да 7 гадоў, а таксама лёгкадумнасць школьнай моладзі на дарогах, ускакванне і выскакванне нахаду з самаходаў, наладжванне гульняў на дарогах і г. д.

У месяцах: чэрвені, ліпені і жніўні 1965 года на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства здарылася 24 няшчасныя дарожныя выпадкі, у якія замешаны былі дзеці. У выніку — 3 дзяцей было забіта, а 21 атрымала цяжкія параненні. У летні перыяд непамерна ўзрастае колькасць патануўшых, большасць якіх — гэта дзеці. Статыстыка патануўшых безупынна ўзрастае. У 1965 годзе на тэрыторыі ваяводства патанула агулам 21 асоба ва ўзросце ніжэй 14 гадоў. Тым часам ужо да 18 чэрвеня гэтага года занатавана 21 патануўшых дзяцей і школьнай моладзі. Толькі на працягу 16 дзён месяца чэрвеня г. г. вада паглынула 9 маленькіх ахвяр. Усё яшчэ вялікую небяспеку ствараюць неўзарваныя снарады і бомбы, а таксама выкліканыя дзяцьмі пажары.

Ваяводская Камэнда грамадзянскай міліцыі, Кураторыя школьнай акругі і Камэнда Харугвіі ЗГП у Беластоку ў клопаце пра здароўе і жыццё дзяцей і школьнай моладзі заклікаюць бацькоў і выхаваўцаў:

— Не дапускайце, каб дзеці гулялі на дарогах. Вучыце іх правіл дарожнага руху.

— Прасцерагайце дзяцей перад небяспекай купання ў небяспечных месцах.

— Не дазваляйце дзецям гуляць з запалкамі і агнём, асабліва ў лесе і ў забудаваных месцах.

— Прыпамінайце дзецям, каб не краналі знойдзеных выпадкова снарадаў і бомб, якія пагражаюць смерцю або калецтвам». (п)

### ГАРЦЭРСКАЕ ЛЕТА — 66

На днях адбылася прэс-канферэнцыя ў Камэндзе Беластоцкай Харугвіі на тэму гарцэрскага лета — 66. У гэтым годзе апекай старэйшых будзе ахоплена каля 90% моладзі. У летніх лагерах будзе адпачываць каля 8 тыс. дзяцей і моладзі, а 60 тыс. будуць ахоплены акцыяй нялагернага лета. Кульмінацыйным пунктам акцыі гарцэрскага лета гэтага года будзе свята 22 ліпеня. У дні свята Адраджэння ў Алецку адбудзецца злёт моладзі, на які гарцэры павінны прыйсці турысцкім маршрутам з рапартамі аб выкананні заданняў. (яч)

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 3. VII.**

9.25 Program dnia; 9.30 „Leningrad” reportaż pt. „Białe noce” (Leningrad); 10.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia dla przyjaciół” (Budapeszt); 10.45 Przerwa; 12.00 Program dnia; 12.05 „Muzyka w Łańcucie”; 12.35 PKF; 12.45 „Pojedziemy na łów”; 13.00 „Świat, obyczaje, polityka”; 13.20 Dla dzieci: „Najdzielniejszy” E. Szelburg-Zarembiny. Przedstawienie z Państwowego Teatru Lalek w Poznaniu. 14.15 „Tygodnik Wiejski”; 15.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów lekkoatletycznych o Memoriał Braci Znamieńskich (Odessa); 17.00 „Zawsze w niedzielę” — Telewizyjny Turniej Miast: Kwidzyń — Stargard Gdański. Transmisja z zamku w Malborku; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Niedzielny program rozrywkowy „Tu mówi Warszawa”. Wykonawcy: I. Cembrzyńska, H. Kunicka, I. Santor, T. Woźniakowski, Zespół Wokalny „Alibabki”, zespół baletowy „Fanton”, duet fortepianowy Kisielewski — Tomaszewski, J. Kieszczyński i inni (Interwizja); 20.45 „Szeryf w spódnicy” — film fab. USA; 22.20 „Niedziela sportowa”.

**PONIEDZIAŁEK, 4. VII.**

17.40 Program dnia; 17.45 Wiadomości dziennika TV; 17.50 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd” — film; 18.05 „7 milionów młodych”; 18.20 „Spacerkiem po kinach”; 18.50 „Giełda reporterów”; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik TV; 20.00 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: „Czarny anioł”. Autor — J. Pierzchała. Wykonawcy: J. Szajna, K. Brylówna, J. Piątkowski, K. Zieliński, A. Kowalczyk, A. Rycharski, S. Matyński, B. Stokowski, S. Kubicki, W. Wyganowski (Transmisja z Teatru im. A. Mickiewicza w Częstochowie); 21.40 „Eureka”; 22.10 „Na półkach księgarskich”; 22.20 Dziennik TV; 22.30 „Kronika Kulturalna”.

**WTOREK, 5. VII.**

10.00 „O życie dla Ruth” — film fab. ang. od lat 16; 11.30 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 „Sztuka młodych” — występ laureatów III Międzynarodowego Konkursu im. P. Czajkowskiego (Moskwa); 17.05 „Orlątko” — film węg; 17.25 „Na morskich szlakach”; 17.50 Wiadomości dziennika TV; 18.00 Sprawozdanie sportowe; 19.45 „Dobranoc”; 19.55 Dziennik TV; 20.25 „O życie dla Ruth” — film fab. ang. od lat 16; 22.15 Dziennik TV.

**ŚRODA, 6. VII.**

10.00 „Tropiciele” — film („Baron”); 10.50 Przerwa; 17.25 Program dnia; 17.30 „Informator handlowy”; 17.40 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka” (film); 17.55 Wiadomości dziennika TV; 18.00 Dla młodych widzów: reportaż; 18.30 „Pierwsze kroki” — film; 18.40 PKF; 18.50 Wszechnica TV: „Wieczór w Łazienkach” — program Redakcji Historycznej; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Tropiciele” — film („Baron”); 21.05 „Światowid” — magazyn wydarzeń międzynarodowych”; 21.30 „Gra Idil Biret” — recital fortepianowy pianistki tureckiej; 22.00 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 7. VII.**

17.40 Program dnia; 17.45 „Informator handlowy”; 17.55 Wiadomości dziennika TV; 18.00 „Nie tylko dla pań” — magazyn; 18.25 „Kwadrans zagadek” — teleturniej; 18.40 „Córeczka” — film TV z cyklu „Dzień ostatni, dzień pierwszy”; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Naprawmy te naprawy”; 20.30 Teatr Sensacji: „Pocztówka z Buenos Aires” odc. II „Osaczeni” — widowisko sensacyjno-szpiegowskie A. Wydrzyńskiego; 21.30 „Śpiewa Roberta Peters” — film; 22.10 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 8. VII.**

16.55 Program dnia; 17.00 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Lekkoatletycznych o Memoriał Rosicki (Praha); 18.55 „Świat, który nie może zginąć” — film; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Spotkania Kieleckie” — reportaż; 20.50 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: „Don Alvarez albo niesforna w miłości kompanija” — Stanisław Herakliusz Lubomirski. (Przeniesienie z Teatru im. J. Osterwy w Gorzowie); 22.50 Dziennik telewizyjny.

**SOBOTA, 9. VII.**

10.00 „Nowela szachowa” — film fab. NRF; 11.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Program Tygodnia; 17.00 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Lekkoatletycznych o Memoriał Rosickiego (Praha); 19.05 „Kapelusze” — paryski program baletowy; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 „Monitor”; 20.00 „Między Legnicą a Głogowem” — reportaż filmowy; 20.30 „Piosenki francuskie” — program rozrywkowy; 21.15 Dziennik telewizyjny; 21.30 Wiadomości sportowe; 21.40 „Nowela szachowa” — film fab. NRF.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 91



УЛАДЗІМІР СІДАРУК

*Нарадзіўся 19 студзеня 1940 года ў Кузаве, Гайнаўскага павета. Вучыўся ў Тэхнікуме рахунковасці рольнай у Бельску. У 1959 годзе пачаў працаваць інструктарам БГКТ на Гайнаўскі павет, потым у Гарадской радзе народовай у Гайнаўцы.*

*Зараз працуе ў Ваяводскім праўленні кіно.*

*Друкуецца ў «Літаратурнай староньцы» ўпершыню.*

# ПЕРШАЕ КАХАННЕ

Угары павіслі чорныя хмары, вецер завываў сваю песню. Шумеў лес.

Лёнька паглядаў у акно.

«Будзе дождж», — падумаў сабе.

А так хацелася Лёньку сустрэцца з Валяю!

У шыбы пастукалі цяжкія кроплі дажджу. На панадворку пачуліся знаёмыя галасы сяброў. Яны ішлі наведаць Лёньку, правесці вольную нядзелю.

— Здароў, Лёнька! — загрымеў Коля.

— Чаго сядзіш у хаце, нікуды не вылазіш — дзяўчаты сумуюць па табе...

— Ён, напэўна, не сумуе. Знайшоў сабе шчасце маладое, гожае, — хітравата засмяяўся Мішка.

Хлопцы ўселіся. З «точкі» плыла сардэчная мелодыя «Бярозы».

— Што чуваць, хлопцы? — спытаў Лёнька.

— Старына, брат. Сядзім па хатах, нічога не ведаем. Сёння вечарына.

— А ты дзе прападаеш, дзяўчаты гавораць, што жэнішся. Праўда? — пацікавіўся Мішка.

У вясёлай кампаніі хутка зляцеў час. Праз брудныя хмары пачало прабівацца сонца. Сціх вецер.

— Ідзеш з намі, ці да сваёй ідзеш? — запытаў проста Коля.

— Не ведаю... — Лёнька пачырванеў.

— Не намаўляем. Твая справа, — сказаў хтосьці.

— А можа пойдзеш з намі? — гаварыў Мішка.

— Ідзем, — згадзіўся Лёнька.

Выйшлі. На вуліцы блішчалі баюры вады, брызгаліся малышы.

У Ніны сабраліся дзяўчаты і хлопцы — рыхтаваліся да вечарыны. Сыпаліся жарты, нават цётка Ганна падкінула пару «кавалкаў». Толькі Лёнька маўчаў. Неўзаметку ён выйшаў адзін.

Па вуліцы валакліся хударлявыя каровы, бляялі авечкі. За імі члэмбала змучаная бабка Варка з унучкам.

— Ну-у, сіўка! Хутчэй валачыся, чаго стаеш, халера!

Скаціўся ўжо за лес чырвоны кружок сонца. Вуліца апусцела.

Узяўшы ліхтарык, Лёнька пайшоў праз агароды знаёмаю сцежкаю. Пад нагамі блытаўся яго цень. Недзе па-над клуняю закракалі вароны.

Вось і панадворак Валінай хаты.

Валя была адна ў хаце.

— Добры вечар, — сказаў Лёнька.

— Добры вечар.

Лёнька прысеўся. Сядзеў ды не ведаў, як пачаць размову.

— Што табе, Лёнька? — запытала Валя. — Сталася што?

— Не, нічога, — пачаў тлумачыцца Лёнька.

Валя ўважліва паглядзела на яго. Здалося ёй, што ён нешта тоіць перад ёю, не хоча выявіць праўды...

Лёнька ўзяў Валіну руку і недарэчліва абняў яе, пахіліў галаву. Ён і сам не ведаў, як гэта сталася!? Забаяўся і маўчаў у адрантвенні.

— Як добра, што ты прыйшоў, — прашаптала Валя.

І пачалі туліцца да сябе. Былі шчаслівыя бязмеры — Лёнька цалаваў Валю нязграбна, горача, першымі пацалункамі ў жыцці.

УЛАДЗІМІР СІДАРУК

# РАЙСК

Памяці 149 жыхараў Райска расстраляных гітлераўцамі 16. VI. 1942 года за супрацоўніцтва з партызанамі.

**Райск — нічога супольнага з раем.**
**Быў найгоршага пекла здзяйсненнем.**
**Са звярынаю злосцю, адчаем,**
**Вораг сеяў тут смерць поўнай жменяй.**

**Колькі ж сэрцаў тут спынены стукат!**
**Вёска згладжана, пушчана з дымам.**
**Нат каменні тут вырвана з бруку**
**Праз нянавісць да нашай радзімы.**

**Жыцця вораг найгоршы не знішчыць.**
**Жыцця смерцю ніхто не падменіць.**
**Адрадзілася зноў з папялішчаў.**
**Вёска Райск, як услаўлены фенікс.**

**Прамінулі няшчасці, пакуты,**
**Гаспадараць загінуўшых дзеці.**
**Ды нянавісць да ворагаў лютых**
**Панясуць пакаленні ў сталецці.**

**Так глыбокай, балючае раны**
**Лекар — час ды і той не загоіць.**
**Ліхадзействы фашыстаў паганых**
**Зарастаць не павінны травою.**

ВІКТАР ШВЕД

# ВЕЧАРАМ У БЕЛАСТОКУ

*— Алё! Алё! — трос трубкаю.*

*Хтосьці на другім канцы азваўся. Гэта яна!*

*— Я цябе не пазнаў.*

*Засмяялася.*

*— Заўтра пойдзем у кіно, добра?*

*Згадзілася.*

*Сказаў ёй дабранач і паклаў трубку.*

*Купляў білеты на сёмую вечарам. Спяшаўся, каб адной хвілі не спазніцца. Не прыйшла.*

*Пабачыў яе ля «Дэлікатэсаў» разам з іншымі дзяўчатамі: чакалі кавалераў у шапках з дэрмы. Кавалеры, псякрэў! Купіў папяросы і выбег на вуліцу. Ішоў прэч без аглядак.*

ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ

# РАЗБОЙ

Забіралі ім усё: каровы, коні. А гэтых, хто не хацеў аддаваць, стралялі за гумном, у полі. Хата гарэла за хатаю, людзі баяліся сябе.

Затрымаўся і глянуў зноў — на хату старога Выгана, якога ўжо не было, на праклятую вёску, на Мархалёўку.

Углядаўся за сябе. Ніхто яго не гнаў, але ён уцякаў як мог! Нёс на плячах поўны мяшок мукі. Граз у снезе, не раз упаў у глыбокую баразну.

Даходзіў да могілак — і ўздрыгануў. Напроціў выскачыў чалавек з карабінам.

Хто? — падумаў. — Бандыт!? — Яйбогу, бандыт! Што будзе? Заб'е! Няхай будзе што хоча, пайду...

— Стой! Сколь ідзеш?

— Згэтуль, — паказаў рукою.

— Што ў гэтум мяшку?

Маўчаў.

— Што ў гэтум мяшку, я табе гавару?!

Высокі мужчына стукнуў яго прыкладам. Упаў з мяшком і ўстаў перапалоханы.

— Скідай!

— Пане, я нішто вам не вінен. Нішто...

— Я табе гаварыў, скідай!

Чалавек з карабінам узяў яго за кляпы і мацней папхнуў. Упаў і прабаваў устаць. Дастаў ботам у галаву — даткнуў барады, пачуў кроў.

— Хутчэй, тваю маць! Скідай кажух, валянкі тэж. Уставай, ідзі наперад!

Стаяў босы на снезе, толькі ў кашулі.

— Ідзі! Бягом!!

Чалавек у шынялі падняў карабін і выстраліў у яго.

Эдвард Ярашэвіч

ВІКТАР ШВЕД

##  Макар і буквар

*У кнігарні Макар*
*Купіў новы буквар*
*І да школы бягом*
*Паімчаў з букварам.*
*Там, як цвёрды граніт,*
*Шліфаваў алфавіт.*
*І надзвычай быў рад,*
*Як злажыў з літар склад.*
*Потым ён са складоў*
*Збудаваў многа слоў,*
*А са слоў у свой час*
*Утварыўся і сказ.*
*Сказ такі меў сакрэт,*
*Што вёў вучняў у свет.*
*Макару многа мар*
*Здзейсніў гэты буквар.*

##  Парканны мастак

*Кажуць здольны Коля*
*Да мастацкіх спраў.*
*Крэйдай парты ў школе*
*Ён памаляваў.*

*Ідучы на ўрокі*
*Раніцай штодзень*
*Малюе навокал*
*Парканы, пляцень.*

*Ды з малюнкаў толку*
*Няма аніяк,*
*Таму што Міколка*
*Парканны мастак.*

##  Каб добра сон убачыць

*Бабулька ў акулярах*
*На ложку задрамала.*
*Маленькая Тамара,*
*Убачыўшы, сказала:*

*Шкляныя бабка вочы*
*Надзела не іначай*
*Таму, каб сон уночы*
*Як мага лепш убачыць.*

##  Аўтаматы

*Прыдзе — кажа тата —*
*Неўзабаве час*
*Будуць аўтаматы*
*Працаваць за нас.*

*Уздыхнуў глыбока*
*Абібок Ігнат:*
*За мяне урокі*
*Зробіць аўтамат.*

##  Хто памаляваў лісты?

*Зося ведала, што клёны*
*Летам мелі ліст зялёны.*
*Раптам бачыць, што лісты*
*Маюць колер залаты.*
*І дадумацца не можа,*
*Хто малюе так прыгожа.*
*Растлумачыў тата Зосі,*
*Што лісты малюе восень.*

##  Бусел

*З хаты выбягла Ануся*
*Бачыць — сеў на пуню бусел.*
*Кажа: хіба зноў цыбаты*
*Хоча мне падкінуць брата.*

Мікола Прашковіч

# Маладых узлёт

Вельмі радасна адзначыць, што беларуская літаратура расце і колькасна і якасна не толькі ў нас, але і ў нашых братоў-беларусаў на Беласточчыне.

Беларуская літаратура ў Польшчы вельмі маладая, па-сутнасці, амаль усе пісьменнікі, якія групуюцца вакол «Нівы», пачынаючыя. Тым не менш, яны ўжо зрабілі значныя поспехі, асабліва ў паэзіі. Мы, чытачы з Савецкай Беларусі, ужо мелі шчасце пазнаёміцца са зборнікам «Рунь», з мастацкімі творамі ў «Беларускіх календарах», сістэматычна чытаем «Літаратурныя старонкі» «Нівы», цяпер жа атрымалі літаратурны альманах «Белавежа» № 1.

Сам па сабе выхад зборніка — факт знамянальны. Варта таксама адразу падкрэсліць, што ў некаторых маладых празаікаў Беласточчыны пачынае вырысоўвацца, няхай яшчэ і не вельмі акрэслена, свой творчы почырк.

Удалымі, на маю думку, з'яўляюцца апавяданні Міколы Гайдука, прысвечаныя далёкаму мінуламу. Адштурхоўваючыся ад асобных фраз Іпатаўскага летапісу, аўтар стварыў арыгінальныя апавяданні. М. Гайдуку ўдалося жыва намаляваць карціны жыцця нашых продкаў, іх імкненні, думы, побыт. Асаблівым майстэрствам вылучаецца «Буруш». Аўтар і ў далейшым павінен працаваць над падобнай тэматыкай, дзе ён ужо знайшоў сваю тэму.

Найбольш вопытны і найбольш таленавіты беларускі пісьменнік Польшчы Алесь Барскі змясціў у зборніку таксама тры апавяданні. Безумоўна, Барскі перш за ўсё паэт, але і апавяданні яго маюць пэўнае значэнне. Цікавым па задуме з'яўляецца апавяданне «Лянарда». Аўтар змог паказаць любоў свайго героя да мастацтва, прыгажосць яго душы і талент. Праўда, не зусім матывавана псіхалагічна з'яўляецца апошняя сцэна, калі Лянарда ў адчаі разбівае свае фігуры.

Вялікае месца ў зборніку займае тэма вайны і першых пасляваенных гадоў. Сярод твораў гэтай тэматыкі, бясспрэчна, першае месца належыць апавяданню «Пралеска» Вінцука Склубоўскага (шкада, што няма біяграфічнай даведкі.) Аўтар з тонкім псіхалагізмам, з вялікім майстэрствам паказаў шлях чалавека ад простага вясковага хлапца да палітычнага злачынцы, здрадніка радзімы.

З добрым густам напісана апавяданне Ул. Паўлючука «Чарадзейнае шкельца», «Чалавек» С. Раманчука, чытаюцца апавяданні С. Заставіна.

Асобна хочацца спыніцца на мініяцюрах С. Яновіча. Напісаныя добраю, сакавітай мовай, закранаюць глыбокія фі-

(Працяг на стар. 4)

 

(Працяг са стар. 1)

# АД СУПРАСЛІ ДА ЖЭДНІ

Мелі мы магчымасць яшчэ раз заўважыць, здавалася б, дзіўную розніцу паміж ляснымі (лясунскімі!) і запалянскімі вёскамі: лесуны больш чыстыя, працавітыя, дружныя. У маёй роднай запалянскай вёсцы кавалеры ахвотна ездзяць у далёкія залёты да лясунак. Мая маці таксама лясунка.

Ад Калоднага да Каралёвага Моста прасціраецца квяцістая даліна ракі Плоскай. О, тут нельга наракаць, што няма беластоцкіх маёўшчыкаў: гардзяць транзістары, паблісквäюць пад кустамі машыны розных марак, шаша побач. Наўкола «мондрацца» размаляваныя беластачанкі і пішчаць парасячым хорам белатварыя гарадскія дзеткі ў шыкоўных сонечных касцюмчыках. Каралёў Мост — вядомае месца! І адразу можна дадаць, што вядомае яно перад усім дзякуючы паблізасці ад шашы ў Беласток. Закінутае пасярод лясоў Калоднае зайздросціць славе Каралёвага Маста. Зрэшты, Каралёў Мост меў таксама большае шчасце да гісторыі: тут, на рацэ Плоскай, кажуць, быў у старыну мост, праз які часта праязджалі польскія каралі едучы ў Літву і Русь. Сюдою ішлі войскі Напалеона, застаўся яшчэ стары шлях, званы, напалеонаўскім. Тут, на каралёўскіх пагорках адбылася не адна бітва армій, ваявалі тут паўстанцкія і савецкія атрады. (Аляксей Карпюк піша ў «Пушчанскай адысеі»). Убок Калоднага ёсць у лесе гара, дзе царскія каральнікі вешалі паўстанцаў 1863 г. Хадзілі мы на тую паўстанцкую магілу на стромкай гары, парослай лесам. Ніяк не маглі прачытаць вельмі старыя памятныя драўляныя таблічкі на соснах, на якіх, відаць, была зроблена шыбеніца. Магіла запаўшая ў зямлю, занядбаная — гэтаксама, як і памятны абеліск ПТТК каля магілы.

Канчалі мы сваю вандроўку праз вёску Пераходы, наўпрасткі праз духмяны чэрвеньскі лес з леснічоўкамі. Дайшлі да станцыі Жэдня. Тут уліліся ў натоўп пасажыраў, якім нецярплівілася даехаць у Беласток.

Быў святочны дзень. Мы раптам успомнілі, што ў час сваёй вандроўкі не напаткалі ніводнай экскурсіі — правандравалі адзінока ў трыццаці кіламетрах ад Беластока, гэтага вялікага і запыленага горада, якому так патрэбен адпачынак у прыгожых аколіцах. Тырчыць народ на спечаных тратуарах або гразістых пляжах Супраслі, Васількова, Дайлідаў... (С. Я)



Від на Каралёў Мост з вёскі Пераходы.



Сустрэчныя леснічоўкі.



Цілічанка ў кучме дрэў.



Затонне Плоскі.

Фота — Ул. Паўлючук і М. Хмялеўскі

# НА КУПАЛУ

Старое язычаскае свята Купалы вядома было ўсім славянам, нідзе аднак не захавала яно так доўга сваёй першабытнай формы, як сярод беларусаў. Купалу славяне святкавалі ў дзень, калі сонца асягала найвышэйшы свой пункт на небасхіле: ноч тады — найкарацейшая, дзень — найдаўжэйшы Каляндарна дзень гэты звязаны з датаю 24 чэрвеня. У сувязі з тым аднак, што сярод беларусаў праваслаўнага веравызнання даты лічыліся паводле старога стылю, святкаванне Купалы выпадае на 7 ліпеня паводле новага стылю. У сувязі з тым, што на гэты дзень, паводле праваслаўнага календара выпадае Іоана Прадцечы, свята гэтае называецца найчасцей вясеннім Янам або купалаўскім Янам.

Як ужо вышэй было сказана, святкаванне Купалы вяжацца з датай найдаўжэйшага дня і найкарацейшай ночы. Гэты пераломны ў прыродзе момант, калі канчаецца наступленне дня і пачынаецца наступленне ночы, знайшоў у народнай фантазіі цікавае адлюстраванне. Адвечныя законы прыроды, пераход дня ў ноч, лета ў зіму ў народным уяўленні «персаніфікуюцца», прымаюць кшталт драматычнай барацьбы сіл дабра і сіл зла, сіл дня і сіл ночы. якія сутыкаюцца з сабою менавіта ў гэтую кароткую купалаўскую ноч.

Ноч гэта незвычайная, поўная найдзіўнейшых дзіваў. У ноч гэтую ажыўляліся ўсе дэманы, у якія верыў народ. Чараўніцы вылятаі праз коміны на памялах, або на хлебных лапатах, і пудзілі недзе далёка на Лысую гару, якая дзесьці аж каля Кіева, або проста ў лясныя цемры, дзе распальвалі свае чарадзейскія кастры. Набіралі яны там незвычайнай моцы, пасля чаго, як найхутчэй, пакуль не заспяваў яшчэ першы певень, вярталіся да вёсак, каб парабіць дрэнныя чары людзям.

І таму добрая гаспадыня не спіць у гэтую ноч. Добрая гаспадыня знае мноства спосабаў на злачынствы чараўніц.
Яшчэ напярэдадні Яна жанчыны паналівалі да ўсіх пустых гладунак ад малака вады так поўна, каб не змясціліся ў іх чары, або клалі на дно гладунак крапіву. Хлявы, дзе знаходзіліся каровы, абвешвалі крапівою, папараццю і палыном, таму што расліны гэты мелі цудоўную сілу супрацьдзеяння чарам. У сувязі з тым, што чараўніцы мелі асабліва шкодзіць каровам, адбіраючы малако, на рогі жывёле закладалі кружкі з папараці або асінавых галінак, падкурвалі жывёлу жывіцай знойдзенай папярэдняга Яна ў мурашніку, а вымя мылася вадою салёнаю свянцонай соллю.

У купалаўскую ноч вялікія скарбы пахаваныя даўным-даўно глыбока ў зямлі даюць людзям звестку аб сабе паказваючыся ў постаці агню — чырвонага або блакітнага. Пералічыць усе цуды, якія дзеяліся ў купалаўскую ноч, немагчыма, таму што кожная вёска мела тут свае легенды. У адной расказваюць, што ў гэтую ноч нехта выходзіць на дарогу, у другой — што ў пагорку за вёскаю званы б'юць, калі апоўначы прылажыць да зямлі вуха, у іншай — што пад лесам нейкі агонь паказваецца.

Са звязаных з Купалам вераванняў найдаўжэй мабыць у народзе захавалася перакананне, што на Яна раніцаю «сонца грае». Помню з часоў свайго дзяцінства (было гэта зараз пасля вайны), як старэйшыя паказвалі гэтыя сонечныя гульні. Калі ўсход сонца прыкрыты быў лёгкімі хмурынкамі, праз якія відаць было кавалкі ўзыходзячага сонечнага дыска, людзі гаварылі, што гэта сонца рассыпалася на дробныя кавалкі, якія толькі пасля нейкага часу зыдуцца на месца. Калі ж неба было чыстае, людзі доўга ўглядаліся ў яскравы сонечны дыск, пасля чаго мелі заўважыць нейкія дзіўныя яго рухі.

Зелле, сарванае на Купалу, мае многа большую аздараўляючую вартасць, чымсьці сарванае ў нейкі іншы дзень. Аздараўляючай з'яўляецца і купалаўская раса. Найбольшым аднак цудам купалаўскай ночы была кветка папараці. Хто сарве гэтую кветку, атрымае ўладу над усімі скарбамі зямлі, і, што найважнейшае, станецца несмяротным. Многія з гэтых легендаў захаваліся да нашых дзён, хутка аднак адыходзяць яны ў няпамяць, і чытач зрабіў бы добрую справу, калі б захацеў спісаць іх у сваёй аколіцы і пераслаць у «Ніву».

Ул. Паўлючук




## ПРЫЙШОЎ НОВЫ

«Ktoś nowy» — так у арыгінале называецца п'еса Марка Даманьскага, якую беластоцкі тэатр паставіў на вялікай сцэне. Гэта сучасная п'еса і вельмі адважная. Бачым фабрычную кантору, праз якую праходзяць розныя людзі: новы малады дырэктар, неспакойны дух, які не падабаецца засядзелым і... заслужаным рабочым фабрыкі. Дырэктар — дасканалы канструктар, бачыць фабрыку рэнтабельнай, з новым аўтаматычным абсталяваннем. А заслужаныя людзі фабрыкі не спяшаюцца, ім добра і так. Канфлікт вельмі цікавы, з'едлівая крытыка і горы смеху.

## ВЫСТАЎКІ І КАНЦЭРТЫ

Ярэмі Крулікоўскі — беластоцкі мастак прадставіў сваю цікавую графіку (чорна-белыя карціны) ў Клубе міжнароднай прэсы і кніжкі ў Беластоку, а Музей рэвалюцыйнага руху прэзентуе таксама графіку, але шырэй. Выстаўка тут называецца «Польская сучасная графіка». У апошні час у Беластоку мелі многа выставак графікі. Цікавая гэта галіна мастацтва, і да яе належыць будучыня.
З канцэртаў Беластоцкага сімфанічнага аркестра падам два: канцэрт музыкі і паэзіі Польскага Адраджэння (XVI стагоддзе). Старыя песні спяваў хор Варшаўскага універсітэта. Другі канцэрт «Паланеза час пачаць». Гасцінна выступіў Тадэуш Вазнякоўскі, вядомы (асабліва з «Падвячоркаў пры мікрафоне») эстрадны спявак.

## ПРЫЯЦЕЛІ БЕЛАВЕЖЫ Ў НОВАЙ АКЦЫІ

Таварыства прыяцеляў Белавежы пры дапамозе Аддзела культуры прэзідыум ПРН у Гайнаўцы арганізавала канцэрт. Выступаў аркестр дзяржаўнай сярэдняй школы музычнай у Беластоку пад дырэкцыяй Эдмунда Юхневіча. Гэта новая форма культурна-асветнай дзейнасці неспакойнага і вельмі сімпатычнага таварыства. Яго старшыня др Януш Фаліньскі кажа: «Мы бадай адзінае таварыства, якое не патрабуе складаць справаздач. Наша справаздача — гэта папулярнасць нашай працы ў асяроддзі». А мгр Ежы Альшэўскі сваім абавязкам лічыць паведамляць нашу рэдакцыю аб усіх пачынаннях прыяцеляў Белавежы, за што дзякуем. Прыяцелямі Белавежы з'яўляемся і мы.

## 1 МІЛЬЁН У ГОД

Столькі кніжак спісваецца на страты (проста выкідаецца) ў бібліятэках ваяводства ў год. Становіча замнога! Адна з прычын — не шанаванне кніжкі чытачамі. (вл)



 

# СУДЗЯЦЬ ЧАРЫ І МАГІЯ

Крымінальны закон кожнай краіны мае свае асаблівыя рысы, якія адлюстроўваюць гаспадарчую, палітычную і грамадскую спецыфіку данай краіны. І так, калі паявіліся ў Афрыцы першыя еўрапейцы, гэты кантынент меў ужо сваю шматвяковую гісторыю, існавалі тут высокаарганізаваныя дзяржавы, якія характарызаваліся высокім узроўнем цывілізацыі і тэхнікі.

Існаваў закон. У такіх афрыканскіх дзяржавах, як Ашанці, Яруба, Бенін, Буганда, канфедэрацыя княстваў і плямёнаў караля Чака ў краіне Зулаў — была развітая арганізацыя судаводства. Гэтае судаводства апіралася на правах дадзеных каралямі і правадырамі, але адначасова гэтыя правы былі ўхвалены пры ўдзеле радовых старшын, якія, ухваляючы прапануемы каралём закон, кіраваліся прытым мясцовымі звычаямі існуючымі з пакалення ў пакаленне.

У афрыканскім звычаёвым законадаўстве наглядаем падабенства да звычаёвага законадаўства існуючага на іншых кантынентах. У якасці сродкаў рэпрэсіі ўжываецца: адплата, кампенсата, публічная кара, ачышчэнне, індывідуальная і калектыўная адказнасць. Не заўсёды тое, што лічылася злачынствам у Еўропе, магло быць злачынствам у Афрыцы. Іншая характэрная рыса старажытнага афрыканскага законадаўства гэта тое, што **не было тут турмаў**. Ужываліся такія кары, як кара смерці, адплата, пакалечанне, аддача ў няволю, выгнанне. У плямёнаў банту публічным злачынствам лічылася: здрада, забойства, гвалт жонкі ці дзяўчыны. Прыватным злачынствам лічылася: пакража, знішчэнне маёмасці, спакушэнне жанчыны, сямейныя справы.

Злачынствы такога тыпу, як забойства або самагубства, замах на правадыра, баязлівасць на полі бою, чары, здрада, парушэнне мясцовых звычаяў моцна караліся.

У паняцці афрыканцаў **прычынамі** злачынства маглі быць таемныя сілы. Каб распазнаць злачынцу часта прыводзілася варожку. У плямёнаў бімікі для выяўлення злачынцы ўжывалася святой чарапахі. Калі чарапаха пачынала паўзці ўбок асобы západозранай у злачынстве, тады гэта было довадам віны. У Заходняй Афрыцы віну абвінавачанай асобы акрэслівалася паводле пазіцыі, у якой застываў зарэзаны певень ці кураня. Для праверкі, ці абвінавачаны сапраўды вінаваты, часта ўжывалася рознага зелля, лекаў, страваў, якія павінен быў з'есці абвінавачаны і паводле таго, які ўплыў мелі яны на абвінавачану асобу, акрэслівалася або даказвалася яго віна, вінаватасць. Заступалі яны сведкаў і рэчавыя доказы. Варажба і магія, як бачым, ігралі вельмі істотную ролю ў афрыканскім судаводстве. Часта яны стваралі падставы для ўстанаўлення такога ці іншага прысуду.

У законадаўстве розных народаў па-рознаму ацэньвалася пакражу. Пакража быдла там, дзе гадоўля з'яўлялася падставаю ўтрымання, каралася вельмі моцна — нават караю смерці. Вядома, кара залежыла ад вартасці ўкрадзенага быдла. У іншых афрыканскіх народаў аднак наогул пакража каралася лагадней. Пераважна, злодзей вымушаны быў звярнуць усё ўкрадзенае, а нават і больш таго. Плаціў таксама як бы штраф за такі ўчынак мясцоваму правадыру ці старшыні.

Але заўсёды ў ацэнцы злачынства бралася пад ўвагу грамадскую шкоднасць данага ўчынку. (а-ся)



**На здымку:** кангалезскі Нганга з'яўляецца ўсім — святаром, лекарам і чараўніком.

**На здымку:** афрыканскія суддзі ў былых англійскіх калоніях пераанялі англійскі звычай адзення з парыкам.

## КОНЬ – ДОБРЫ ТАВАР

Так, так. У сувязі з механізацыяй і т. п. конь усё больш стаецца не рабочай сілай, а таварам. Яшчэ і таму, што розныя там гандлёвыя фірмы, асабліва тыя, якія гандлююць з заграніцай, б'юцца за коней. Італьянцы, французы і іншыя смакуюцца ў каніне, а колькасць коней у нашай краіне з года ў год памяншаецца. Вядома, не аплочваецца каня ўтрымліваць. Праўда, не аплочваецца як рабочую сілу, але як тавар?

А тут розніца ёсць. Да класа «экстра» залічваюцца коні рабочыя вышэй 8-мі год. Кармленне такіх коней — чыстая страта.

У 1962 годзе было скуплена ў краіне 63 тысячы коней на мяса (т. зв. жэзьных), у 1965 годзе ўжо толькі 27 тысяч. Экспарт спадае, што абазначае няўладжаны ў час конскі інтарэс.

Яшчэ бывае і так, што каня гаспадар прадае гадоўцам лісаў ці нутрый (любіцелі каніны), якія плацяць лепш чым гандлёвыя дзяржаўныя фірмы.

У кожным выпадку гісторыя каня — не прапетая песня. Ён можа і павінен стацца таварам, якім ужо зараз добра гандлюе Заходняя Германія, Югаславія, Венгрыя.

У Польшчы бітва за каня ідзе, але часта мала ў ёй добрай тактыкі. А і самі гадоўцы коней не ўсе ўмеюць пералічваць каня на тавар.

(апр-вл)

*ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ*

## ДЗЕСЯТАЯ ПЛАНЕТА

Сонечная сістэма мае 9 вядомых дагэтуль астраномам планет, якія акружаюць сонца: Меркурый, Венера, Зямля, Марс, Сатурн, Юпітэр, Уран, Нептун і Плутон. Для чыста практычных патрэб касманаўтыкі неабходна пастаянна вылічваць трэакторыі (шляхі) руху ўсіх планет. Вось гэтыя шматгадовыя падлікі прывялі савецкіх вучоных да вываду, што сонечная сістэма не канчаецца на Плутоне. Недзе за межамі яго арбіты павінна быць дзесятая планета. Якая яна — ніхто пакуль што не ведае, бо ніхто нават у найбольш магутным тэлескопе не змог яе ўбачыць. Але яна ёсць. Аб яе існаванні сведчаць капрызныя паводзіны Плутона, якіх нічым другім паясніць не можна.

Склалася тады так, што матэматыка апярэдзіла нагляданні. У гісторыі астраноміі бывала так ужо не раз. Вось для прыкладу, амерыканскі астраном П. Ловел на 15 год раней вылічыў арбіту Плутона, чымсьці яго змаглі сфатаграфаваць, што сталася на пачатку 1930 года.

*Нейтрына*




АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

## ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Невядома, чым бы для нас ўсё гэта скончылася, каб не Міша Лук'янаў. У сямейным лагеры нейкая цётка падляцела да яго:**

**— Ты тут з дзеўкамі абнімаешся, а на тваіх там немцы напалі!**

**Кулямётчык — да нас! І трэба ж здарыцца, што якраз у гэты момант, калі ідзе гутарка з оберам, Міша вылятае на просеку на сярэдзіну калоны. Хлопец як трымае перавешаны праз плячо кулямёт, так і выпускае цэлы дыск у сцяну людзей. Партызаны Мішкіну чаргу разумеюць як каманду. Тр-р-р-р! пасыпалася з усіх бакоў.**

**Фельдфебель і лейтэнанты адскочылі ад нас.**

**— Nicht schissen! Nicht schissen![1]) — крычаць з калоны.**

**Крычу і я. Страляніна спыняецца. Ад калоны аддзяляецца лейтэнант, пераступае праз забітага тоўстага фельдфебеля, крычыць:**

**— Ты чаго ўстройваеш бойню? Што нам абяцаў?**

**Шукаю вачыма обер-лейтэнанта. Няма! Зводдаль ляжыць яшчэ адзін мёртвы, аднак гэта не афіцэр.**

**— Гарантуем жыццё толькі тым, хто здасца ў палон! — разбірае мяне злосць.**

**— Няхай загадае наш камандзір!**

**— Няма вашага камандзіра, дзе яго вам вазьму!**

**— А дзе ім тут здавацца? — папярэджвае мяне камісар, які крыху здагадваецца, пра што ідзе спрэчка. — Вядзі на адкрытае месца!**

**Успамінаю, — крокаў дзвесце на ўсход па просецы — паляна. Крычу колькі маю сілы:**

**— Die ganze Kolonne kehrt! Im Richtung auf der Lichtung-marsch![2])**

**Салдаты неарганізавана паварочваюцца і чвакаюць назад. Я, Косця, Міцька, яшчэ некалькі нашых ідзём уперамешку з фельдфебелямі, афіцэрамі. Салдаты павернуты да нас спіной. Зноў гэтак сама тырчаць стэрэатрубы, шпулькі кабеля, рулі ротных мінамётаў, ранцы, ствалы і каскі, каскі, каскі. Побач са мной крочыць лейтэнант, які крычаў, што ўстройваю бойню.**

**— На паляне атрымаеце загад свайго камандзіра, — супакойваю яго.**

**— Гут...**

**Невялікая замінка: хвост калоны абыходзіць забітых. Папярок просекі ў вадзе валяюцца тры целы ў зялёных уніформах, якіх скасіў Мішкаў кулямёт.**

**— Erledigt![3]) — як бы з радасным здзіўленнем кідае нейкі салдат суседу.**

**— Fertig![4]) — згаджаецца задні.**

**Са злосным цынізмам абодва смяюцца. Выходзіць, што ў іх былі парахункі з забітым.**

**Я ўжо нібы зросся з варожай калонай, адчуваю яе настрой.**

**Зноў шукаю вачыма камбата. Нырнуў у кусты! Мне гэта надае гонару. Каб перавесці імгненныя пачуцці на словы, то ў перказе выглядала б так. Колькі оберу год? Колькі і мне. Нябось, ты дзесьці скончыў вайсковую школу, ваяваў, мабыць, і ў Францыі, і ў Італіі, Афрыцы, пад Масквой. А вось толькі мы тут, у Перацёсах, цябе акаўпачылі і зараз абяззброім з усім тваім войскам! Ля Юзафова ты стрымліваў мо цэлы полк Чырвонай Арміі або дывізію: у наступленні, кажуць, салдат трэба болей.**

**На цябе нашы кідалі танкі, штурмавалі, цяжкія гарматы, таўклі «кацюшамі». Але толькі мы цябе і тваю вайсковую адзінку здымем з балаша вайны!.. Нават уяўляю твары палкоўнікаў, генерала, што спатыкаюць нас з вялізнай калонай немцаў. Слава, захапленне землякоў...**

**Мары мае абрываюць выкрыкі:**

**— Аддавай сволач!**

**— На-айн!**

**Партызаны счапіліся з немцамі.**

**Хлопцы і далей лічаць — салдаты прыйшлі здавацца ў палон. Калі яшчэ ўбачылі, што імі камандую, вяду, высыпалі з кустоў, накінуліся на немцаў. Увішныя фігуры ў цывільным ужо абляпілі задніх салдат, вырываюць пісталеты, аўтаматы, цягнуць з нямецкіх халяваў драўляныя ручкі гранат. Умомант стварыліся купкі людзей, тузаюць адны адных.**

**— Вас іст лёс? — упіраюцца салдаты.**

**— Гэй вэг!**

**— ...Тваю маць, яшчэ будзеш упірацца, фашыст, пусці!**

**— Не чапайце, прэч! — кідаюся адвалакаць сваіх. — Яны арганізавана будуць здавацца!**

**Позна! Выхадка хлопцаў падштурхнула немцаў да дзеяння. Калона раптоўна пачынае раставаць. Мяне агортвае роспач. Такое пачуццё, нібы даручылі нешта важнае трымаць у сетцы, гэтая сетка нечакана распаўзлася, і ўсё, што дабыта, калі на карту ставілася жыццё, беспаваротна знікае.**

**— Дай сваім каманду, каб не разбягаліся! — раву на лейтэнанта.**

**Трыццацігадовы, інтэлігентнага выгляду немец прызнае ва мне камандзіра, нават выцягваецца на «смірна», але з вінаватым ушанаваннем кажа:**

**— Не маю права. Я — не камандзір батальёна.**

**— Стой, страляць будзем! — крычу сам. Дарэмна! Мы выйшлі з зоны, дзе на-**

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ПІРАЖКАХ

У Піражках (Сакольскі павет) многа змянілася на лепшае. Тут была крама што аж страх. Змяшчалася яна ў маленькай каморцы, дзе ад мух цяжка было абараніцца, бо ў сенях былі свінскія рашкі. Але калі паявілася крытычная інфармацыя аб гэтай краме ў «Ніве», дык жыхары Піражкоў задумалі пабудаваць новую краму. Так і зрабілі. Грамадскім чынам пры дапамозе Гміннай спулдзельні ў Крынках пабудавалі новую прыгожую краму, аж люба глядзець. Школа з Піражкоў зараз перанесена да Астраўка. У тым будынку, дзе была раней школа, зараз святліца. Жыхары Піражкоў сарганізавалі грошы і купілі тэлевізар, столікі, мяккія крэслы, радыё і ўсялякія патрэбныя настольныя ігры. Ёсць газеты і часопісы. Грамадская рада нарадовая ў Шудзялаве прызнала палову этату для светліцовага. Надта дбае ён пра святліцу. Такой святліцы, як у Піражках, няма ў Сакольскім павеце.

Жыхары грамадскім чынам пры дапамозе Грамадскай рады нарадовай у Шудзялаве ў хуткім часе будуць брукаваць вуліцу і будаваць ходнікі. **А. С.**

Сакольскі павет

## А МОЖА СОЛТЫС І ПОП...

Крывяцічы — гэта вёска, якая залічваецца да адных з большых на Бельшчыне. У вёсцы ёсць многа моладзі, якая хоча развіваць культурнае жыццё. З гэтай мэтай арганізаваўся гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Налічвае ён каля дваццаці членаў. Але што з таго, калі нават няма дзе праводзіць рэпетыцый. У сувязі з тым яшчэ ў 1959 годзе ўзнікла прапанова, каб пабудаваць святліцу. ГРН у Орлі адобрыла жаданні, і супольна з жыхарамі вёскі пачалася будова. Сяляне грамадскім чынам залажылі фундаменты, і па чарзе па некалькі чалавек пачалі памагаць пры будове.

Зрабілі многа. Але будова не заканчваецца ўжо сем год. У ГРН у Орлі кажуць, што няма грошай. Справа тут не толькі ў грошах. Грошай можна было б дастаткова сабраць. Тым больш, што сельскагаспадарчы гурток прызначыў 4 300 зл., і сяляне ахвотна памаглі б, толькі няма каму пакіраваць гэтай справай. А можа так солтыс і падставовая партыйная арганізацыя ўзяліся б больш энергічна за гэтую справу?

**Янка Кірыдзюк**
Крывяцічы



## СЯМ'Я ГРЫЦАЎ

Андрэй Грыц у Старым Трысцяном на Сакольшчыне гаспадарыць разам са сваёй жонкай, сынам Мікалаем і нявесткай. Як кажуць там, гаспадараць яны на сто два. Гаспадарскія працы ў іх змеханізаваны. Маюць яны ўласны сеўнік, малатарню, крайзегу, млынок, трапачку да льну, рухавік і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. У хаце ёсць сціральная машына, тэлевізар, прыгожая мэбля. (мх)

## БУДУЦЬ ПАД ДАХАМ

У Паўлаўскім сельгаспадарчым гуртку да гэтага часу ўсе машыны стаяць пад «шкляным дахам». На іх падае дождж, і таму яны хутка нішчацца. Беластоцкае прадпрыемства будаўніцтва і мантажу пабудавала прыгожы гараж на машыны. У хуткім часе сельскагаспадарчыя машыны будуць пад сапраўдным дахам. **П. Я.**

з Бельскага павета




«Дарагое Сэрцайка! Я хачу цябе запытаць, дзе знаходзіцца міліцыйная школа, колькі год трэба там вучыцца і ці пасля сямі класаў прыймуць? Мы з сябрам вельмі гэтым цікавімся. Сябра мой нават мае ўжо восем класаў. Вельмі цябе просім хутка нам адказаць», — пішуць Віця і Янка з Беласточчыны.

А вось вам, Віця і Янка, адказ:

Вашым запытаннем напэўна пацікавяцца і іншыя хлопцы, маю на думцы старэйшых, таму пастараюся падрабязна адказаць на гэтае пытанне.

Ёсць міліцыйная падафіцэрская школа, да якой прымаюць хлопцаў пасля вайсковай службы, таксама тых, хто перанесены ў рэзерву без адбыцця вайсковай службы, ва ўзросце да 30-ці год. Кожны з кандыдатаў павінен мець не менш 170-ці сантыметраў росту. Павінен мець таксама скончаную пачатковую школу і якуюсьці завадовую. Абавязваюць таксама экзамены. Навука працягваецца 10 месяцаў. Месячная зарплата — ад 1500 — да 1650 зл.

Ёсць яшчэ міліцыйная школа дарожнага руху. Да яе прымаюць на такіх самых умовах, як і ў міліцыйную падафіцэрскую школу, з выключэннем, што трэба мець аднак сярэднюю адукацыю. Так вось, Віця і Янка вучыцеся, а потым падумаеце аб гэтай школе.

Жадаю поспехаў у навуцы
**Сэрцайка**

Адказваю на ліст без подпісу вучаніцы з агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску:

Адрас карэспандэнцыйнага ліцэя ў Беластоку — вул. Цёплая № 32.

Адрас Кураторыум: вул. Рынак Касцюшкі № 9.

**Сэрцайка**

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ —„НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** У 1960 годзе — пасля смерці бацькі — я і мой брат падзялілі паміж сабой без суда гаспадарку, якая мае 7 гектараў і карысталіся кожны са сваёй часткі. У 1965 годзе мой брат падаў мяне ў суд, каб падзяліць спадчыну. Суд прызнаў усю гаспадарку майму брату, а мне засудзіў 30 тысяч сплат. Я не маю ніякай прафесіі і не ведаю, што рабіць. Чуў я, што гаспадаркі да 8 га нельга дзяліць. Але я чуюся пакрыўджаным. Ці варта сусудзіцца далей?

**Адказ:** Фармальна беручы суд мог прызнаць усю зямлю брату. Аднак у вашым выпадку — паколькі перад 5 ліпенем 1963 годам быў праведзены фактычны падзел гаспадаркі, не было праўнай перашкоды, каб пакінуць Вас на гаспадарцы. Пагэтаму раім злажыць рэвізію і спрабаваць шчасця ў Ваяводскім судзе.

## СКУПАЎСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

Гурток вясковых гаспадынь у Скупаве існуе два гады і налічвае 37 членаў. Адным па 20 год, а другім па 60 гадоў. Жанчыны тут дружныя. У лютым гурток арганізаваў курс мясных вырабаў, у восені будзе сарганізаваны курс перапрацоўкі агароднiны і фруктаў. Жанчыны бралі ўдзел у чытальніцкім конкурсе і конкурсе агародчыкаў. З ініцыятывы гуртка будзе ў Скупаве ў час жніва дзяцінец, на які частку грошай дае гайнаўская малачарня. Ужо запісалася 26 дзяцей. Яшчэ хочуць зрабіць тут санітарны пункт, каб у нечаканых выпадках мець першую медыцынскую дапамогу. На санітарным курсе была Марыя Красоўская ў Цехацінку. Яна яшчэ паедзе, каб паглыбіць свае веды.

**В. Янцэвіч**
Скупава

## ПАЖАР

8 чэрвеня ў вёсцы Вітава, Гайнаўскі павет, пад вечар успыхнуў пажар. Загарэлася клуня грам. Кірылы Баравіка. Агонь вельмі хутка перакінуўся на суседні будынак — таксама клуню. На бяду вецер пабольшаў, агонь перанёсся на другі канец вёскі, і «чырвоны певень» пустошыў яе. На ратунак вёсцы найперш прыехаў пажарніцкі самаход з Дубіч Царкоўных, потым з Гайнаўкі, Кляшчэляў, Тафілаўцаў і інш. Дубіцкія пажарнікі найбольш умела змагаліся з агнём. Яны найбольш прычыніліся да таго, што цэлая вёска не згарэла. Іх камендант Іван Герасімюк дасканала ведаў, дзе трэба расставіць сваіх людзей і гасіць паасобныя будынкі. Згарэлі тыя будынкі, якія загарэліся яшчэ перад прыбыццём пажарнікаў. Але лік іх таксама не малы, бо 12 клуняў і тры хлявы. Прычынай пажару была гульня дзяцей з запалкамі.

**Мікалай Панфілюк**

## НЕ ЎСЁ АДРАЗУ

Няма ў нас святліцы, няма дзе разгортваць культурнага жыцця. Вядома, не адразу ўсё робіцца. Волька (Гайнаўскі павет) была спалена ў час вайны. Але вёска ўжо адбудавалася, усе хаты прыгожыя, па-сучаснаму пабудаваны. Шмат дамоў цагляных. Хутка ўжо ў хатах будзе электрычнае святло. На палях працуюць трактары нашага сельскагаспадарчага гуртка, які даволі добра разгортвае дзейнасць.

**Зося Калеснік**
в. Волька

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 450 | 350 | 390 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,40 | 1,50 |
| масла | кг | 60 | 50 | 60 |
| ялавічына | кг | 37 | — | — |
| свініна | кг | 38 | 38 | — |
| сала | кг | 34 | — | — |
| бульба | цэнт. | 140 | 70 | 70 |
| цыбуля | кг | — | 6 | 7 |
| капуста | кг | — | 8 | 6 |
| морква | кг | — | 8 | 8 |
| буракі | кг | — | 8 | — |

(на)

**„Ніва"—у кожнай беларускай сям'і.**

## КІНО

Праграма
на 3—10. VII. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Tanganica" (radz.), 5—6. „Pożegnania" (polski), 7—8. „Siódmy przysięgły" (franc.), 9—10.

**Кляшчэлі**

„Susza" (brazylijski), 5—6. „Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), 7—8. „Ojciec żołnierza" (radz.), 9—10.

**Нарва**

„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 6—10.

**Нараўка**

„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 6—10.

**Чыжы**

„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Jo-jo" (franc.), „Zawsze w niedzielę" (polski), 6—10.

**Міхалова**

„12 mil. holendrów" (holenderski), 5—6. „Premiera odwołana" (NRD), 7—8. „Wielki skok" (franc.), 9—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Zakwitnie ziemia" (franc.), 5—6. „Inspektor i noc" (bułg.), 7—8. „Olbrzym" (USA), 9—10.

**Мілейчыцы**

„Tak blisko nieba" (czeski), 5—6. „Yanco" (meksykański), 7—8. „Kraksa" (radz.), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Kto sieje wiatr" (USA), 5—6. „Czarne skrzydła" (polski), 7—8. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 9—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Późne popołudnie" (polski), „Pociąg na tyły" (radz.), 6—10.

У мясцовасці Ліпск, Шудзялава, Дубіны, Райск, Дубічы Царкоўныя, Сухаволя ў днях 3—10. VII. фільмы высвятляцца не будуць.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3

## ПРАЦЯГ

шы ўзводы займалі абарону. Калона растварылася на вачах. Просека амаль апусцела. Адно трашчаць кусты пад ботамі. Пакуль знікнуць, салдаты пакідалі ўсё цяжкае. Просека завалена вайсковым хламам. З намі засталіся толькі тыя, з кім мы перамяшаліся.

Выводзім на паляну шэсць фельдфебеляў, сем унтэр-афіцэраў, лейтэнанта і чатырох салдатаў. Хлопцы ўжо звалакаюць амуніцыю, зброю. Умомант на паляне вырастае вялізны капец вайсковых прычындалаў, прымяненне якіх часамі нам невядома. Бліпічыць вараненая сталь ствалоў, свежы лак прыкладаў, адбіваюць святло лінзы стэрэатрубаў, валяецца рацыя...

— Такое бага-ацце, столькі дабра-а!..

— От бы пару месяцаў таму назад нам дасталося ўсё гэта! — шкадуюць.

— Цяпер не варта нават травы, якую ўмінае.

Сябры яшчэ не ведаюць, якая небяспека мінула. Уздыхаю. Дзякуючы выпадковасці мы рассеялі цэлую вайсковую адзінку, часткова яе абяззброілі. І хоць добра ведаю, што мы сваімі вінтоўкамі і кулямётамі не ў сілах зрабіць болей шкоды гэткай навале, на душы скрабе. Падлічваю. Забітых на просецы — пяць. У палон узялі — васемнаццаць. Мала!

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

1) — Не страляць! Не страляць!
2) — Усёй калоне — кру-угом! У напрамку паляны — шагам марш!
3) — Гатовы?!
4) — Гатоў!




# РАЗМОВА НА ДАРОЗЕ

**Узбекская гумарэска**

Раніцою Сідзікджан ехаў на матацыкле. Каля заварота дарогі на шашу ён заўважыў чалавека, які заўзята махаў рукамі, просячы яго спыніцца. Матацыкліст затармазіў.
— Дзень добры!
— Прывітанне!
— Як вы жывяце?
— Нішто сабе, дзякуй. А як вы?
— Дзякуй, вялікае дзякуй!..
— Ну, дык у чым я магу быць вам карысны?
— Прабачце, але бачу, што вы спяшаецеся...
— Так, спяшаюся.
— Прабачце, вас завуць Сідзікджан?
— Так, Сідзікджан.
— Вы ведаеце, мне вельмі няёмка, што затрымліваю вас.
— Нічога, не вялікая бяда. Дык у чым жа ўсё-ткі справа?
— Хацеў прасіць вас зрабіць адну паслугу.
— Калі ласка.
— Але не ведаю, ці знойдзецца ў вас тое, што мне трэба.
— Што канкрэтна?
— Мусіць, у вас усё-ткі гэтага няма, я па выразу вашага твару бачу.
— Прычым тут мой твар! І сапраўды, гаварыце хутчэй, бо я спазнюся на працу.
— Вось бачыце, я так і ведаў. Вы ўжо злуецеся...
— Ды не злуюся. Скажыце, урэшце, што вам ад мяне трэба?
— Ці праўда, што вы працуеце ў санэпідэмстанцыі?
— Так, працую, а што?
— А гэта праўда, што ў адным сяле аб'яўлены каранцін?
— Так, праўда. У двух бараноў забалелі капыты. А вам што, трэба прэпараты?
— Ды не, што вы, бараноў у мяне з роду не было. Гэта я так, да слова прыйшлося. Дык вы мне не адмовіце?
— Вядома, не.
— Во дзякуй...
— Што ж вам ўсё-ткі трэба?
— Дык вы зараз кіруецеся ў санэпідэмстанцыю?
— Так!
— Ну, у такім выпадку не буду затрымліваць.
— Навошта вы мяне спынілі? Скажыце...
— Калі ласка, калі дазволіце. Я абяцаў пазваніць сябру, а ў мяне, як на тое, няма двухкапеечнай манеты.
— Толькі і ўсяго. Вазьміце, вось вам тры манеты.
— Прабачце, у вас не знойдзецца рэшты з рубля? У мяне зусім няма дробных.
— Ды вазьміце проста так. Далібог жа, час даражэй.
— Не, не вазьму. Я не хачу быць вашым даўжніком.
— Бярыце хутчэй так, а то я паеду.
— Добра, я вазьму. Але цяпер я баюся, што турбаваў вас дарэмна. Я, здаецца, забыўся нумар тэлефона...

**А. Хусанаў**

## ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

*У адной жанчыны быў кватарант. Прачнуўшыся раніцай, ён пачуў, што гаспадыня сварыцца з суседкай, а снеданне не гатовае. Ён выйшаў на панадворак і кажа:*
*— Цётка, ідзіце падрыхтуйце снеданне, а я за вас дасварыся.*
*— Хіба ты ведаеш, за што мы сварымося?*
*— Знайду, за што, — адказаў.*
*Пайшла гаспадыня ў хату, а кватарант і кажа суседцы:*
*— А я вас ведаю.*
*— Адкуль?*
*— Вы такая, як ваша маці.*
*— А мая маці якая, нягодніку?*
*— Цюцелька ў цюцельку такая, як вы.*
*Вось так і гутарылі яны пакуль не зварылася снеданне*



120 у гадзіну

## ВАЖКІ ДОКАЗ

Настаўнік, напісаўшы на дошцы формулу хімічнага рэчыва, спытаў у вучня:
— Вася, скажы, калі ласка, гэтае рэчыва раствараецца ў вадзе ці не?
— Так, — адказаў вучань.
— Тады дакажы гэта.
Вася ўзяў мокрую анучу, падышоў да дошкі і сцёр напісанае.

## МАМА ВЕДАЕ

**— Тата, дзе знаходзяцца Альпы? — пытае сын у бацькі.**
**— Спытай у мамы, яна вечна ўсё дома перастаўляе.**




Разумныя людзі ніякіх аўтарытэтаў не прызнаюць, але ніякіх і не звяргаюць.




**Не адзін камбінатар на сваіх пройгрышах вучыцца дасканаласці.**

*

**Чалавек, які не любіць спеву, не разумее прыгажосці жыцця.**

*

**Па знаёмству ўсе дзверы самі адчыняюцца.**

*

**Добрае пачуццё ўзалежнена ад якасці акружэння.**

*

**Сярод джэнтэльменаў бываюць таксама неразгорнутыя aслы.**

## МЕСЦА НЕ ХАПІЛА

Вучань, які сядзеў на апошняй парце, залез паміж спінкаю парты і батарэяй паравога ацяплення і грэецца там. Настаўніца ўбачыла гэта і пытаецца:
— Іваноў, чаму заўсёды менавіта ты ўтворыш якую-небудзь штуку. Няўжо твой сябра не змог бы залезці?
— А яму месца не хапіла.

## ЯНКАВА ХВАРОБА

**Да маці на дзянёк**
**Прыехаў неяк Янка.**
**— Сыночак, мой, сынок! —**
**Ото ж неспадзяванка!**
**Матуля цешыцца з адзінага сынка,**
**Што толькі мае, усё яму падносіць,**
**Змагла — птушынага купіла б малака.**
**— Еш, Янучок, — ласкава просіць. —**
**Каштуй, сілкуйся... Так цябе чакала!..**
**Любіў жа бульбачку калісьці з сыраквашай.**
**А мо смятанкі хочаш? Сала?..**
**Я заўтра пеўніка зарэжу...**
**— А ну вас з гэтай вашай**
**Ежай! —**
**Янук сваё — гідліва крывіць рот:**
**— Адвык я ад вясковых страў за год,**
**Гатуйце ежу гарадскую...**
**— Сыночак мой, якую ж?**
**Усё зраблю — каб толькі еў.**
**Відаць, хваробай нейкай захварэў? —**
**Матуля залемантавала.**

— ▪ —

**Што ж, маці крышачку ўгадала:**
**Шчэ не паспеў Янук у горадзе абжыцца,**
**А ўжо пачаў занадта індычыцца.**

**ВАСІЛЬ МАЕЎСКІ**

# НЕ ПЫТАЙСЯ, МАЦІ

Словы Ніла Гілевіча    Музыка Ул. Карызны




Не пытайся, маці,
Не шукай прычыны.
Вечарам у хаце
Не трымай дзяўчыны. (2 разы)

Ей нялёгка, мабыць,
Расказаць пра тое,
Што так моцна вабіць
Сэрца маладое. (2 разы)

Не пытайся ж, маці,
Не пярэч ты выйсці,
І цябе ў семнаццаць
Сон не браў калісьці. (2 разы)

Не пытайся ўвечар,
Не сварыся ўранку:
Маладым не вечна
Хадзіць на гулянку. (2 разы)

## ПТУШАНЯ

— Учора я злавіў птушку, — пачаў адзін жартаўнік, — паверыце ці не, дзюба яе мела акурат шаснаццаць аршын даўжыні, а з яе рэбраў мы пабудавалі мост.
У размову ўмяшаўся другі жартаўнік:
— Калі ты гаворыш праўду, а не маніш, дык гэта, відаць, было птушаня таго птаха, якога я злавіў нядаўна.

## ЧЫЙ БАЦЬКА ВЫШЭЙШЫ?

Аднойчы сустрэліся два манюкі.
— Мой нябожчык бацька быў такі высокі, што яго галава была ў небе.
— Тады галава вашага бацькі да чагосьці дакраналася? — запытаўся другі.
— Вядома, — адказаў першы, думаючы, што ягоны суразмоўца мае на ўвазе хмары.
— Тое, да чаго дакрана907 галава вашага бацькі, было крыссе халата майго нябожчыка бацькі, — засмяяўся другі манюка.



Без слоў.



— Цяпер сонца будзе дастаткова.